# АБРАЗЫ З ТЫДНЯ



**Зьлева:**

**Горскія стралкі паафрыканску. І ў разьлеглых сухіх стэпах Кубані вярблюд выказвае сваю пакорнасьць і ўслужнасьць.**

**Зправа:**

**Стралкі-парашутысты над Каналам.**

**Гэнэрал-фэльдмаршал Шпэррль прыглядаецца ваенным заняткам стралковых часьцей парашутыстаў на прыбярэжным абшары каналу. На нашым здымку відаць гэнэрал-фэльдмаршала, які прыймае парад удзельнічаючых у занятках парашутных стралкоў.**



**НЯМЕЦКІЯ ГОРСКІЯ СТРАЛКІ ЗДАБЫЛІ ЭЛЬБРУС.**



Выгляд з горных схілаў Эльбрусу на станцыю, якая знаходзіцца некалькі сот мэтраў углыб (зьнізу зправа). Ува ўсёй красе відаць горны масыў. З далін уздымаецца паволі густая імгла.

**НЯМЕЦКІЯ ВОЙСКІ НАД ВОЛГАЙ.**



Разьведвальныя танкі прабіліся да берагоў Волгі. За адзін дзень яны прайшлі дарогу ад маставых праходаў над Донам да Волгі.

**ПРАЗ ГОРЫ І ДАЛІНЫ — НАПЕРАД!**



Нямецкія горскія стралкі ў маршы праз Каўказ.




Адно з высадачных суднаў, якое хацелі выкарыстаць ангелійцы ў часе няўдачнае спробы стварэньня 2-га фронту.



**Зправа:**

**Вярблюды ў маршы праз стэпы.**

**Горскія стралкі ў сваім паходзе праз сухія стэпы ідуць з вярблюдамі. На здымку — вярблюды з адным гарбом.**

**Зьлева:**

**Абраз нязвычайнага баявога настрою.**

**Пасьля заўзятага бою быў збудованы маставы праход. Неспадзявана прабіліся сюды савецкія танкі. Раненаму падпалкоўніку ўдалося выскачыць з варожага агню. У часе, калі яго перавязвае санітар-падафіцэр, ранены паказвае проціпятунскай артылерыі замаскованае танкавае становішча. Дзякуючы гэтаму варожыя танкі былі разьбіты. Гэта прыклад сапраўды нязвычайнага гэройства!**

